ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 91 (1625) | Пятніца, 17 лістапада 1961 года | Цана 4 кап.

19 ЛІСТАПАДА па рашэнню Сусветнага Савета Міру чалавецтва адзначае знамянальную дату — 250-годдзе з дня нараджэння Міхаіла Васільевіча Ламаносава.

Імя Ламаносава выклікае ў нашым уяўленні вобраз незвычайнага чалавека, адоранага рэдкім талентам, вобраз мужнага патрыёта і змагара, які ўсё сваё палымянае жыццё аддаў роднаму народу.

Мінаюць стагоддзі. Час нараджае ўсё новыя і новыя факты, якія сведчаць аб магутнасці чалавечага генія. Але слава нашага вялікага продка не меркне. Знаходзячыся сёння на вяршыні сучасных эканамічных, палітычных і культурных дасягненняў чалавецтва, савецкі народ з пачуццём павагі і ўдзячнасці ўспамінае таго, хто так многа зрабіў для радзімы ў тыя далёкія часы, калі яна спакваля набірала сілы, каб вырвацца з абдымкаў патрыярхальшчыны. Перад яго жывой памяццю схіляе ў пашане галаву і сусветная навука, абавязаная вялікаму сыну рускага народа шматлікімі ідэямі і адкрыццямі.

## СЛАВА І ГОРДАСЦЬ ЗЯМЛІ РУСКАЙ

Ламаносаў — бліскучая старонка нашага нацыянальнага летапісу. Пушкін нездарма назваў яго нашым першым універсітэтам. Вялікі філосаф, гісторык, грамадскі дзеяч, хімік, біёлаг, механік, географ, астраном, мастак, паэт, тэарэтык літаратуры... — Ламаносаў пакінуў выразны след ва ўсіх галінах навукі і культуры. Можна толькі здзіўляцца рознабаковасці яго розуму, невычэрпнасці яго інтэлектуальных сіл.

Разважаючы аб шляхах зараджэння і развіцця вялікай рускай літаратуры, В. Г. Бялінскі пісаў: «...Першыя спробы былі надзвычай слабымі і няўдалымі. Але раптам... на берагах Ледавітага мора, нібы паўночнае ззянне, засвяціў Ламаносаў. Асляпляльнай і прыгожай была гэтая з'ява! Яна даказала сабой, што чалавек ёсць чалавек у любым становішчы і ў любым клімаце, што геній умее перамагаць усе перашкоды, якія ні супрацьстаўляе яму варожы лёс, што, нарэшце, рускі здольны да ўсяго вялікага і цудоўнага не горш еўрапейца...»

Тым больш захапляе нас сёння ўсё зробленае Ламаносавым, што жыў і тварыў ён далёка не ў спрыяльным «клімаце». Толькі бязмежнае жаданне бачыць сваю радзіму ў перадавых радах чалавецтва дапамагала яму зносіць шматлікія нягоды, якія выпалі на яго долю. Адно тое, што Ламаносаў быў сялянскім сынам, каштавала яму многа — і тады, калі ён ірваўся да навукі, прыйшоўшы ў Маскву з далёкай Архангельшчыны, і тады, калі рускай навукі і культуры ўжо нельга было ўявіць без Ламаносава. Саноўная Расія змушана была цярпець чалавека «чорнай косці» ў сваім асяроддзі, расступаючыся перад яго магутным талентам, але ён заўсёды бачыў яе пагардлівую міну і выслухаў нямала абразлівых слоў. Праз усю творчую біяграфію вялікага мысліцеля праходзіць вострая барацьба з іншаземцамі, якія ў той час апанавалі былі рускую навуку, з афіцыйнымі прадстаўнікамі царквы, для якіх матэрыялістычны светапогляд Ламаносава, яго нянавісць да папоўшчыны і цемрашальства былі страшнай пагрозай. Барацьба гэтая адзначана і такім ганебным для самадзяржаўя фактам: Ламаносаў на некаторы час быў выгнаны з акадэміі і некалькі месяцаў знаходзіўся пад арыштам.

Ідэя прагрэсу радзімы, вера ў невычарпальныя сілы рускага народа былі страсцю душы Ламаносава. Ён быў цвёрда перакананы, што расійская зямля можа нараджаць «собственных Платонов и быстрых разумом Невтонов», што рускаму народу наканавана вялікая гістарычная місія. У імя гэтага вялікі патрыёт не шкадаваў сваіх сіл і мірыўся з сваім нялёгкім лёсам. «За тое цярплю, — пісаў ён, — што стараюся абараніць працу Пятра Вялікага, каб вывучыліся расіяне, каб паказалі сваю годнасць».

Інтрыгі і адкрытыя ганенні скарацілі жыццё Ламаносава, але яно было і застанецца назаўсёды вялікім па зместу і сэнсу, па той спадчыне, што падараваў геній свайму народу і ўсяму свету.

Трывалыя цагліны паклаў геніяльны рускі вучоны ў падмурак прыродазнаўства, апярэдзіўшы шмат у чым сучасных яму мысліцеляў. І ў гэтым важную ролю адыграла тое, што ён стаяў на матэрыялістычных філасофскіх пазіцыях. Ён зрабіў нямала, каб вырваць уяўленне чалавека аб навакольнай рэчаіснасці з-пад гнёту ідэалізму і папоўшчыны. Навуковыя адкрыцці Ламаносава, у прыватнасці, такія, як закон захавання матэрыі, энергіі і руху, новая тэорыя цеплыні, тэорыя ўтварэння навальнічных хмар, працы ў галіне хіміі, мінералогіі, астраноміі і г. д., наносілі сакрушальны ўдар па ідэалістычных і рэлігійных дагматах і рухалі сусветную навуку далёка ўперад.

Глыбокі дапытлівы розум Ламаносава спалучаўся з рашучасцю і смеласцю сапраўднага наватара. Патрэбы эпохі, адзначанай вызваленнем ад сярэдневяковага застою, знайшлі ў ім надзвычай яркае выяўленне. Дзейнасць вялікага вучонага была такой жа шматграннай, як кола неадкладных праблем эканамічнага і культурнага развіцця Расіі. Яго хвалявалі і перспектывы асваення незлічоных багаццяў Сібіры, і праблемы развіцця паўночнага мараплавання, і магчымасці палёту чалавека ў паветры (створаная ім «аэрадромная машына» была першай у свеце дзеючай мадэллю гелікаптэра), і развіццё прамысловасці каляровага шкла, і многае, многае іншае — усяго не пералічыць.

І чым больш ён ажыццяўляў задум, тым больш з'яўлялася новых ідэй. У апошнія гады свайго жыцця Ламаносаў задумаў рад дзяржаўных праектаў— «об истреблении праздности, об исправлении нравов и о большем народа просвещении, об исправлении земледелия, об исправлении ремесленных дел и художеств, о лучших пользах купечества, о лучшей государственной экономии, о сохранении военного искусства во время долговременного мира, о размножении и сохранении российского народа».

Многім абавязана Ламаносаву руская літаратура. Ён быў, паводле слоў Бялінскага, яе бацькам і пестуном, яе Пятром Вялікім. У абліччы Ламаносава спалучаліся выдатны паэт свайго часу, тэарэтык літаратуры і мовы, смелы заканадаўца новых творчых прынцыпаў. Ён рашуча выступіў супраць неўласцівых рускай мове форм вершаскладання і распрацаваў новую сістэму верша, якой руская паэзія карыстаецца і сёння. Шматлікія працы Ламаносава па мове і тэорыі літаратуры, яго небагатая, але разнастайная паэтычная спадчына аказалі вялікі ўплыў на літаратурны працэс.

Гістарычнымі эпохамі вымяраецца ўжо шлях, які прайшла наша краіна ад тых далёкіх часін, калі жыў і тварыў геніяльны мысліцель, асветнік, паэт. І навука, і літаратура ўзняліся на вышыні, пра якія цяжка было раней і марыць. Але імя Ламаносава не загубілася ў петытным моры энцыклапедычных старонак. Яно жыве ў жывой памяці народа, у працы вучоных і творчых пошуках майстроў слова.

Вучоным Ламаносаў дае прыклад мэтанакіраванай дзейнасці, узор спалучэння навукі з практыкай. Усё, што ні рабіў ён, выклікалася патрэбамі развіцця прадукцыйных сіл Расіі, яе культуры. Чарнышэўскі сказаў: «Ламаносаў горача любіў навуку, але думаў і клапаціўся выключна аб тым, што неабходна было для дабра яго радзімы. Ён хацеў служыць не чыстай навуцы, а толькі бацькаўшчыне».

Літаратараў і мастакоў яго творчасць натхняе пафасам гарачага патрыятызму. Паэзія Ламаносава прасякнута ідэяй выхавання ў чалавека грамадзянскага абавязку, яна настройвае на хвалю высакародных пачуццяў і думак. Ламаносаўскія оды ўслаўляюць велічны вобраз Расіі, яны насычаны матывамі глыбокай веры ў яе прыгожую будучыню. Рускія воіны-пераможцы, вучоныя, якія разгадвалі таямніцы прыроды, дзяржаўныя дзеячы, якія дбалі аб славе расійскай зямлі, — вось хто перш за ўсё хваляваў ламаносаўскую музу. На шляхах высокай героікі бачыў Ламаносаў найбольшы сэнс паэтычнай творчасці. У вядомым паэтычным дыялогу-палеміцы «Размова з Анакрэонам» ён пісаў:

Хоть нежности
сердечной
В любви я не лишен:
Героев славой вечной
Я больше восхищен.

Сёння героіка-грамадзянская паэзія цячэ шырокай ракою, але мы не забываемся, што пачыналася яна ручайком у творчасці Ламаносава.

250-годдзе з дня нараджэння Міхаіла Васільевіча Ламаносава — гэта свята рускай культуры, якая заўсёды несла чалавецтву высакародныя ідэалы і паклала на алтар прагрэсу безліч вялікіх здзяйсненняў.

## Да ламаносаўскіх дзён

Працоўныя Беларусі шырока адзначаюць 250-годдзе з дня нараджэння вялікага рускага вучонага, мысліцеля і паэта Міхаіла Васільевіча Ламаносава. Да гэтай даты ў рабочых клубах, хатах-чытальнях, сельскіх дамах культуры, бібліятэках створаны выстаўкі, якія расказваюць аб жыцці і дзейнасці вялікага вучонага, чытаюцца лекцыі і даклады, праводзяцца канферэнцыі.

Прэзідыумам Акадэміі навук БССР створана камісія, у склад якой увайшлі акадэмікі М. Ярмоленка, В. Купрэвіч, К. Лукашоў, К. Крапіва, Ф. Вінакураў і іншыя. Вучоныя Акадэміі навук БССР правядуць урачысты сход, прысвечаны Ламаносаву, на якім будуць прачытаны даклады аб вялікім мысліцелю і асветніку.

Цікавы план мерапрыемстваў склалі работнікі Рэспубліканскага таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў. Лектары і дакладчыкі таварыства правядуць на прадпрыемствах сталіцы, у абласных і раённых цэнтрах Беларусі тэматычныя вечары і лекцыі «Ідэі Ламаносава і дасягненні савецкай навукі». Віцебскае аддзяленне таварыства сумесна з абласной бібліятэкай арганізуе агульнагарадскі вечар, прысвечаны рускаму вучонаму.

Дзяржаўная бібліятэка імя Ул. І. Леніна ў Мінску падрыхтавала цікавую выстаўку. У сямі раздзелах экспазіцыі шырока паказана жыццё і навуковая дзейнасць нашага вялікага суайчынніка. Тут прадстаўлены творы Ламаносава, сабраны манаграфіі і кнігі аб заснавальніку рускай навукі. Выстаўка, прысвечаная слаўнаму жыццю М. В. Ламаносава, адкрыта ў Магілёўскай абласной бібліятэцы. Работнікі бібліятэкі выслалі ў раёны метадычныя пісьмы, у якіх шмат матэрыялаў для арганізацыі кніжных выставак, аглядаў, вітрын.

Ламаносаўскія вечары праводзяць культасветработнікі Гомельшчыны, Брэстчыны, Гродзеншчыны.

Сёння — Міжнародны дзень студэнтаў. Мільёны юнакоў і дзяўчат розных кантынентаў свету адзначаюць гэты дзень і, у думках трымаючыся моцна за рукі, гавораць:

— Мы — за мір!

— Мы — за шчаслівае юнацтва!

— Мы — за шчасце ўсіх працоўных зямлі.

Студэнты Савецкага Саюза — самыя гарачыя прыхільнікі міру, прыхільнікі міжнароднага супрацоўніцтва і братства.

З году ў год расце шматтысячная сям'я беларускіх студэнтаў. У інстытутах, тэхнікумах, вучылішчах, набываюць веды юнакі і дзяўчаты, якія прыехалі з розных куткоў нашай рэспублікі. Яны стануць урачамі, выкладчыкамі, інжынерамі, артыстамі, музыкантамі. Усе свае веды яны аддадуць таму, каб квітнела родная краіна.

Прыкладам вялікай шматнацыянальнай дружбы з'яўляецца і тое, што ў навучальных установах Мінска, Віцебска, Гомеля займаюцца студэнты Украіны, Латвіі, Грузіі, Расійскай Федэрацыі.

Наш фотакарэспандэнт пабываў у Беларускім політэхнічным інстытуце на аўтатрактарным факультэце. Ён створан нядаўна. Яму крыху менш год, чым славутым беларускім волатам-самазвалам маркі «МАЗ» і трактарам «Беларусь». На факультэце займаецца каля ста юнакоў і дзяўчат, якія пажадалі стаць аўтамабіле- і трактарабудаўнікамі.

На здымку вы бачыце студэнтаў: пасланца Мангольскай Народнай Рэспублікі Чыміддаша Хасдоржа, беларуса Георгія Паўлава, украінку Людмілу Ардзелян, мангола Мянганбатара Найдана і беларуса Леаніда Сталярова. Яны чытаюць кнігу. Кніга, відаць, цікавая — вясёлая ўсмешка на тварах студэнтаў.

## ПУЛЬС ГІСТОРЫІ

Кожны дзень нашай Радзімы поўны гераічных подзвігаў народа, небывалых перамог працоўных рук і розуму чалавека, здзяйсненняў самых высокіх мар. Усюды— на заводах і фабрыках, на будоўлях і калгасных палях — чуецца поступ новага часу, новай эры чалавецтва, якую азнаменаваў XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, эры пабудовы камунізма.

Усе народы свету, усё прагрэсіўнае чалавецтва будзе помніць гэты з'езд як самую выдатную з'яву ў гісторыі, адну з самых вялікіх падзей нашай эпохі. Упершыню людзі ўсяго свету ўбачылі такі яркі маяк, які азарыў ім прасторы ў будучыню, у заўтра. Гэтым маяком стала новая Праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, праграма пабудовы камуністычнага грамадства. У ёй — нашы думы і імкненні, нашы жаданні і надзеі, наш лёс, наша шчасце.

Праграма партыі — гэта праграма ўсяго савецкага народа, які прымаў самы актыўны ўдзел у яе абмеркаванні, у яе стварэнні і на долю якога выпала самае вялікае шчасце — здзейсніць, ператварыць у жыццё неўміручыя ленінскія ідэі, запаветныя мары многіх і многіх пакаленняў людзей.

Думы партыі — гэта думы народа. Партыя і народ адзіныя ў сваёй працы, у сваіх імкненнях.

У дні XXII з'езда КПСС увесь народ гаварыў са сваёй роднай партыяй. Усе мы разам са сваімі пасланцамі, дэлегатамі з'езда і яго зарубежнымі гасцямі былі там, у светлым Крамлёўскім Палацы. Мы прыслухоўваліся да кожнага слова дакладаў нашага Мікіты Сяргеевіча, выступленняў удзельнікаў з'езда. Тое, аб чым яны гаварылі, было ў нашых думках, у нашых сэрцах. У кожным выступленні адчуваліся вялікія чалавечыя клопаты аб людзях, аб роднай краіне, аб тым, каб дасягнуць яшчэ больш выдатных поспехаў у галіне развіцця народнай гаспадаркі, культуры, каб наша жыццё стала яшчэ больш прыгожым і шчаслівым, каб хутчэй наблізіць светлае камуністычнае заўтра.

Партыя Леніна — партыя ўсяго народа. Усе працоўныя бачаць у ёй свайго мудрага правадыра, клапатлівую, ласкавую маці. Гэта адчуваецца штодзённа. Асабліва гэта адчувалася ў дні работы з'езда, які канчаткова асудзіў культ асобы і ўсё тое шкоднае, агіднае, што было звязана з ім. У гісторыі ніколі больш не павінен паўтарыцца той дэспатызм, тое беззаконне, якое панавала пры культе, асабліва ў гады масавых рэпрэсій, калі былі асуджаны і знішчаны многія сумленныя людзі. Партыя адкрыта сказала пра гэта народу і тым самым заваявала яшчэ больш высокі аўтарытэт сярод усіх простых людзей свету, яшчэ больш шчырую любоў і павагу.

З якім хваляваннем слухалі мы выступленні старэйшых камуністаў! Яны гаварылі пра роднага Ільіча, з якім разам працавалі, аб яго чуласці, чалавечнасці, аб тым, як ён вучыў быць уважлівым да людзей, да іх запатрабаванняў, клапаціцца аб іх і правільна разбірацца ў кожным канкрэтным пытанні, у лёсе кожнага чалавека.

Ленінскія ідэі, ленінская бацькоўская ласка, чуласць і патрабавальнасць знайшлі сваё самае глыбокае адлюстраванне ў новай Праграме і ў новым Статуце Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, прынятых XXII з'ездам КПСС.

Сёння, вывучаючы гэтыя гістарычныя дакументы, яшчэ і яшчэ раз думаеш аб той велізарнейшай працы, якую прарабіла наша партыя. Выпрацоўваючы сваю мудрую Праграму, праграму будаўніцтва камунізма, партыя ўважліва падслухала біццё нашых сэрцаў, усе нашы думы і жаданні. З якім хваляваннем і з якой незвычайнай радасцю мы чыталі і чытаем сёння заключныя радкі Праграмы: «Партыя ўрачыста абвяшчае: цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!».

Прызнацца шчыра, калі я асабіста першы раз прачытаў гэтыя словы, сэрца забілася з такой радасцю і з такім натхненнем, нібыта была прачытана самая хвалюючая кніга аб нашым жыцці, аб жыцці ўсёй нашай краіны. Гэтыя словы, сказаныя партыяй народу, надалі кожнаму з нас столькі сілы і мужнасці, што мы гатовы пайсці на самы высокі подзвіг, на выкананне самай адказнай задачы.

Кожны радок Праграмы напаўняе сэрца небывалай радасцю і гордасцю за сваю Радзіму, свой народ, за сваю родную партыю— баявы авангард усіх працоўных у іх барацьбе за светлае будучае.

Асабліва ўзрастае роля партыі як арганізуючай і натхняючай сілы цяпер, у перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма. Яна, ведучы нас усіх верным ленінскім курсам, накіроўвае ўсе нашы справы, канцэнтруе ўсю нашу волю і энергію, вырашае ўсе задачы, якія ўстаюць перад намі на новых і новых этапах развіцця гісторыі.

Партыя Леніна ў сваёй новай Праграме заклікае ўсіх працоўных свету назаўсёды знішчыць войны, каб на зямлі панаваў вечны мір і спакой. Яна, не шкадуючы сваіх сіл, робіць усё для таго, каб народы свету жылі ў дружбе і братстве, радасным мірным, шчаслівым жыццём. Гэта— жаданні ўсіх простых людзей свету. Гэта — гістарычная місія, якую выконваюць будаўнікі новага грамадства, будаўнікі камунізма.

XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза яшчэ мацней згуртаваў рады камуністаў і беспартыйных. Хоць не кожны з нас, савецкіх людзей, носіць каля сэрца партыйны білет, але сэрцамі мы ўсе — камуністы, людзі вялікай, светлай будучыні, якую ствараем усе разам, якую набліжаем сваёй сумленнай працай.

Дзе б ні быў, куды б ні паехаў сёння, усюды бачыш небывалы творчы ўздым народа, яго гераічную працу.

Толькі што ўчора, напрыклад, уступіла ў строй новая магутная электрастанцыя на Ангары. Сёння ў квітнеючы аазіс ператвораны Галодны стэп, у якім на працягу стагоддзяў гулялі непраходныя пяскі. Заўтра ці паслязаўтра, вось, вось, хлыне па трубах новага магутнага нафтаправода, што пракладваецца праз усю краіну, «чорнае золата».

А там неўзабаве засвецяцца агні новага горада... І так кожны дзень. Возмеш любы нумар газеты і за радкамі невялічкіх заметак бачыш мільёны працаўнікоў, якія сёння зрабілі сваю краіну яшчэ больш багатай, чым была ўчора, а заўтра зробяць яшчэ больш багатай, чым сёння.

Гэта працуюць савецкія людзі, працуюць адзінай дружнай сям'ёй, не пакладаючы рук. Яны ўжо не словам, а справай адказваюць на рашэнні партыйнага з'езда, які ўскалыхнуў сэрцы ўсяго чалавецтва. Яны пачалі ўжо выконваць вялікую Праграму — маніфест нашых дзён. Яны ўжо ўступілі ў дваццацігадовы перыяд будаўніцтва камунізма, які пачаўся 17 кастрычніка 1961 года, у дзень адкрыцця гістарычнага XXII з'езда КПСС, а, магчыма, раней, калі на старонках газет з'явілася першы раз усім знаёмае і дарагое слова — праграма!

Не так даўно мне давялося пабываць у калгасе імя Леніна Слаўгарадскага раёна. Я там пазнаёміўся з адным вельмі яшчэ маладым чалавекам. Ён, па сутнасці, хлапчук, але справамі сваімі сказаў аб сабе ўжо як аб сапраўдным сталым працаўніку, што ідзе поплеч з вопытнымі, бывалымі людзьмі.

Склалася так, што малы Валодзя Стаднік пакінуў вучыцца ў школе, не слухаўся маці, настаўнікаў. Хацелі накіраваць яго ў дзіцячы дом, адмовіўся пайсці туды. А захацелася яму раптам стаць трактарыстам. Штодня ён прыходзіў да трактара, на якім працаваў былы танкіст, цяпер вядомы ўсёй рэспубліцы механізатар Цярэнцій Радчанка, і стаяў каля яго па некалькі гадзін.

— Што ты, хлопчык, усё стаіш ды маўчыш? Можа, трактарам кіраваць захацеў? — спытаў у яго Цярэнцій.

— А чаму б і не! Хіба толькі вы адны можаце? — адказаў той, апусціўшы чорныя праніклівыя вачаняты.

— Дык у чым жа справа? Прыходзь — будзем вучыцца разам і працаваць.

Так пасябравалі два чалавекі: адзін — загартаваны ў паходах былы салдат, другі — яшчэ зусім юны, але дасціпны хлопчык, які захацеў авалодаць тэхнікай.

І вось мінула ўсяго два гады. Гэты хлапчук, якому толькі пятнаццаць год, удвух з Цярэнціем Радчанкам, ужываючы комплексную механізаваную апрацоўку, вырасціў 150 гектараў кукурузы. За поспехі ў працы Валодзя Стаднік, як і яго настаўнік, камуніст Радчанка, узнагароджан залатым медалем «Удзельнік Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі».

Калі я паглядзеў на яго, падумаў: вось такія ў дні вайны станавіліся Матросавымі і Маратамі Казеямі, кідаліся пад танкі і выносілі з палаючых дамоў маленькіх дзяцей. А сёння яны— героі на кукурузных палях, ля такарных станкоў.

І яшчэ я падумаў: якія цудоўныя ў нас людзі! Вось гэты самы Цярэнцій Радчанка! Другі б на яго месцы не звярнуў увагі на маленькага хлопчыка-сірату. А ён заўважыў у яго жаданне вадзіць трактар і навучыў яго кіраваць такой тэхнікай, якую можна даверыць толькі вопытнаму майстру.

Колькі ў нас такіх людзей — добрых, шчырых, працавітых! Яны «гатовы на жыццё, на подзвіг і на смерць» у імя сваёй маці-Радзімы, у імя шчасця чалавека.

З такімі людзьмі — камуністы яны ці беспартыйныя — можна будаваць камунізм. Яны сваімі рукамі ўздымуць светлы будынак, у якім будуць жыць мільёны людзей — самых шчаслівых на свеце.

Мы закладваем сёння падмурак гэтага будынка. А пройдуць гады, некалькі год — і ярка засвецяць яго вокны.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА.**

## У ДАПАМОГУ УНІВЕРСІТЭТАМ КУЛЬТУРЫ

Канторы і аддзяленні кінапракату пасылаюць кінаўстаноўкам рэспублікі шмат новых цікавых навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных кінафільмаў па мастацтву.

Аб творчасці народнага мастака СССР Ул. Сярова апавядае каляровая кінакарціна «Мастак Уладзімір Сяроў».

З цікавасцю будзе прагледжана навукова-папулярная кінакарціна «Крокі сямігодкі», прысвечаная другой усесаюзкай выстаўцы мастацкай фатаграфіі «Сямігодка ў дзеянні». Тут было прадстаўлена каля тысячы работ чатырохсот фотажурналістаў і фотамастакоў.

Каляровы фільм «Помнік Пушкіну», выпускае на экраны краіны Ленінградская студыя навукова-папулярных фільмаў.

«Увага! Пад вадой здымка» — так называецца каляровы хранікальна-дакументальны кінанарыс аб эксперыментальных падводных здымках на Чорным моры кінагрупы «Чалавек-амфібія» (кінастудыя «Ленфільм»).

**Р. ЗАЙЦАЎ.**

## КАМУНЫ ДАМЫ ВЫРАСТАЮЦЬ

Мы ў аддзеле плніроўкі і забудовы сельскіх населеных пунктаў Беларускага дзяржаўнага інстытута сельскага будаўніцтва. Нас цікавіць, якой будзе вёска камуністычнага Заўтра.

Начальнік аддзела Іван Трыфанавіч Каробкін знаёміць нас з перспектыўнымі планамі забудовы калгаснага сяла. На праектах сярод мора квітнеючых садоў і зеляніны дэкаратыўных дрэў — роўныя вуліцы, велічныя плошчы, скверы, светлыя і прыгожыя шматкватэрныя жылыя дамы, шматпавярховыя будынкі культурна-бытавых і грамадскіх устаноў...

Цэлы горад! Тут можна знайсці ўсё неабходнае для задавальнення матэрыяльных і духоўных патрэб людзей.

— Дарэчы, вёска пачынае ўжо расці ў такім напрамку, — заўважае Іван Трыфанавіч і звяртае нашу ўвагу на панарамны фотаздымак населенага пункта гарадскога тыпу. — Вось гэта пабудавана за апошнія гады ў калгасе імя Калініна Нясвіжскага раёна.

А ці ж не горадам-садам стане праз 10—15 год цэнтральная сядзіба саўгаса «Камунар» Гомельскай вобласці? Тут згодна перспектыўнага плана, усе жылыя дамы і грамадскія будынкі двух- і чатырохпавярховыя. У кватэрах прадугледжаны паравое ацяпленне, водаправод, каналізацыя — увогуле ўсе камунальна-бытавыя выгоды. Новая цэнтральная сядзіба саўгаса разлічана на дзве з палавінаю тысячы жыхароў. Усе жывёлагадоўчыя і гаспадарчыя будынкі вынесены за межы населенага пункта.

Галоўны інжынер гэтага праекта Лідзія Ільінічна Жылкіна расказвае, што саўгас «Камунар» паспяхова вядзе забудову сваёй цэнтральнай сядзібы згодна з перспектыўным планам. Сёння ў саўгасе пабудаваны школа-інтэрнат, адзін шаснаццацікватэрны і два васьмікватэрныя дамы для рабочых, дзіцячы сад і іншыя будынкі.

Такая забудова населеных пунктаў па генеральных планах праводзіцца ў вялікіх маштабах калгасамі «17-е верасня» Нясвіжскага раёна, імя Куйбышава Слуцкага раёна, «Новы быт» Мінскага раёна, «Чырвоная змена» і імя БВА Любанскага раёна, саўгасамі «Вейна» Магілёўскага раёна, «Волма» Мінскай вобласці і многімі іншымі.

Характэрна тое, што як індывідуальнае, так і грамадскае будаўніцтва вядзецца ў асноўным па тыпавых праектах. Будаваць навечна, трывала, каб новы дом быў прыгожы, светлы, эканамічна выгадны — вось асноўнае, што цікавіць сельскага заказчыка. Пра гэта клапоціцца і вялікая армія сельскіх зодчых.

Сёлета па заказах калгасаў рэспублікі Беларускі дзяржаўны інстытут сельскага будаўніцтва выканаў 118 тыпавых праектаў дзіцячых садоў, каля ста праектаў чатырохпавярховых жылых дамоў, па якіх ужо распачата будаўніцтва.

Сельскі заказчык аддае перавагу, як правіла, мураваным будынкам.

Інжынеры і архітэктары інстытута распрацавалі таксама серыю адна-і двухкватэрных, чатырох-, шасці- і васьмікватэрных будынкаў. У двухпавярховых жылых дамах кожная кватэра мае пакоі як на першым, так і на другім паверхах.

— Пры вызначэнні перспектыўнай забудовы цэнтральнай сядзібы саўгаса ці калгаса, — расказвае дырэктар Беларускага дзяржаўнага інстытута сельскага будаўніцтва Аляксей Якімавіч Калугін, — мы ўлічваем эканамічныя і прыродныя рэсурсы той ці іншай гаспадаркі. Напрыклад, для калгаса, які мае чатыры-пяць тысяч гектараў зямельных угоддзяў (у тым ліку паўтары тысячы гектараў ворыўнай зямлі), вызначаецца для перспектыўнай забудовы адзін населены пункт на паўтары-дзве тысячы чалавек. А для больш буйных гаспадарак апроч цэнтральнай сядзібы прадугледжаны дадатковыя населеныя пункты. Колькасць іх залежыць ад наяўнасці зямельных угоддзяў і гаспадаркі арцелі. Амаль усе калгасы і саўгасы Брэсцкай, Гродзенскай і Мінскай абласцей сёння маюць перспектыўныя планы новай забудовы сваіх населеных пунктаў. Больш мацнейшыя гаспадаркі ўжо цяпер распачалі перабудову сваіх пасёлкаў.

Расце новая вёска, вёска камуністычнага Заўтра!

**Ал. АЛІН.**

Сельскія зодчыя (злева направа) архітэктар К. Вернер, галоўны інжынер Л. Жылкіна і інжынер Л. Васільчук распрацоўваюць праект новай планіроўкі калгаснай вёскі.

Такім горадам-садам на Гомельшчыне стане праз 10—15 год цэнтральная сядзіба саўгаса «Камунар». Фота Ул. КРУКА.

